*Шчасця вам, добрыя людзі!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 103 (4458)**

31 снежня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# ВІТАЕМ 2020 ГОД!

**100 РАДКОЎ**



Міхася СКОБЛЫ

## Абуджэнне

2019 год мне хочацца параўнаць з… ракой, дакладней з невялікай рачулкай Палатой, якая цячэ ў Полацку і каля Сафійскага сабора ўпадае ў Дзвіну. Уявіце сабе: плыве шырокая, павольная, дрымотная рака, і раптам ёй пад бок дае адчувальнага кухталя імклівая, нібы збягае з гор, рэчка. Палата з разгону будзіць сонную Дзвіну, закручвае на яе паверхні віры, у месцы іх сутыкнення нават колер вады змяняецца.

Гэткім будзіцелем у чарадзе апошніх залішне спакойных гадоў, якія праходзілі, нібы ў санлівым анабіёзе, бачыцца мне і сыходзячы год. Ён не ўзняў штармавую хвалю ў плыні нашага часу, але заўважна ўзвірыў яе па ўсім рэчышчы, раскатурхаў і пазбавіў балотнага спакою.

Згадаем наўскідку, не прэтэндуючы на ўсеахопнасць, тыя падзеі, вакол якіх закручваліся віры грамадскай думкі і паскорваў сваю хаду беларускі час.

Падзеяй года, бясспрэчна, стала пахаванне Кастуся Каліноўскага і паўстанцаў 1863 года ў Вільнюсе. Тысячы беларусаў пад бел-чырвона-белымі сцягамі здзейснілі своеасаблівы хадж да сваіх святыняў, як мусульмане ў Мекку (нездарма паэт Уладзімір Жылка сто гадоў таму напісаў: *“О Вільня, крывіцкая Мекка, / ці варта прарока ты стрэць?”).* І гэта не было чарговай выязной акцыяй апазіцыі – з падвозам удзельнікаў дапамагла Беларуская чыгунка, чые два дадатковыя цягнікі з’явіліся надзіва своечасова. А ўдзел у жалобнай урачыстасці беларускага віцэ-прэм’ера, трэба думаць, канчаткова спыніў у афіцыйных СМІ недарэчныя дыскусіі пра Каліноўскага як “польскага мяцежніка”.

Засталіся ў нашай калектыўнай памяці і сёлетнія Еўрапейскія гульні, да якіх абнавіў свой выгляд мінскі стадыён “Дынама”. На п’едэсталах нашых спартсменаў мы, што праўда, бачылі рэдкавата, затое ў мяне і дагэтуль уваччу стаіць велічны зубр, які прамаўляе пушчанскім басам: “Я – беларус, ты – беларус, гэта наша зямля…” Урок патрыятызму быў дадзены не толькі маленькаму Лесіку, не толькі 35-тысячнай стадыённай аўдыторыі, але і ўсяму народу, які падобныя відовішчы, як правіла, не прапускае.

Будуць помніцца і зладжаныя на дзяржаўным узроўні адкрыцці двух знакавых помнікаў – Льву Сапегу ў 50-тысячным Слоніме і Гедыміну ў 100-тысячнай Лідзе. Здавалася, што ўсё насельніцтва гэтых гарадоў прысутнічала на ўрачыстасцях, настолькі яны былі масавымі. Прычым чыноўнікаў не бянтэжылі нацыянальныя сцягі, якія луналі над людскім морам, ніводзін сцяганосец не быў затрыманы. Паказальна, што з Ліды і Слоніма вырашылі ўзяць прыклад Навагрудак і Дзятлава – там неўзабаве будуць усталяваны помнікі Міндоўгу і Канстанціну Астрожскаму.

2019-ы запомніцца і мірнымі шэсцямі ў абарону незалежнасці, якія прайшлі ў Мінску па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам Паўла Севярынца, які заслугоўвае звання “Чалавек года”. Не маючы за сабою афіцыйнай партыі ці зарэгістраванай арганізацыі, ён змог вывесці на сталічныя вуліцы тысячы неабыякавых людзей, якія без правакацый і біцця вокнаў ва ўрадавых установах годна і гучна сказалі “не” імперскім памкненням Масквы. “Я разумею людзей пад бел-чырвона-белымі сцягамі”, – прызнаўся кіраўнік Беларусі ў інтэрв’ю расійскаму журналісту, які, відаць, чакаў ад свайго суразмоўцы звыклых тырад пра адмарозкаў, якім наш доблесны АМАП паадкручвае галовы. Праўда, гэтае выказанае ўпершыню “разуменне” не перашкодзіла засадзіць Севярынца на 15 сутак. Як кажуць у народзе, зрабі чалавеку дабро, а ён табе – у рабро. Што ні кажыце, вельмі своеасаблівая “ўдзячнасць” – адправіць адзін са сваіх козыраў на перамовах з Пуціным сустракаць Новы год у турэмную камеру…

2019 год паказаў арганізацыйныя магчымасці схаваных у сеціва-павуціне блогераў. Нейкі Nexta раптам кідае кліч, і на сталічнай плошчы Свабоды ні з пушчы ні з поля збіраецца тысяча маладзёнаў, палова з якіх таксама з’яўляюцца блогерамі і таксама пры неабходнасці могуць кінуць кліч…

У 2019-м кінастудыя “Беларусьфільм” нарэшце зняла нацыянальнае кіно – праўдзівы фільм пра Янку Купалу. Настолькі праўдзівы, што рэжысёру Уладзіміру Янкоўскаму давялося перанесці запланаваную на снежань прэм’еру – каб не дражніць Маскву, дзе беларускі пясняр загінуў пры засакрэчаных дагэтуль абставінах.

Варта згадаць, што сёлета быў афіцыйна зарэгістраваны грамадскі Універсітэт імя Ніла Гілевіча. Будаваць нацыянальную школу з універсітэта – гэта як узводзіць хату пачынаючы з коміна. Але, з другога боку, пад ляжачы камень і вада не цячэ. Рабіць, як не робіць ніхто, часам вымагаюць абставіны. Магчыма, той універсітэт з цягам часу возьме пад крыло дзяржава, як яна ўзяла распачаты грамадскімі высілкамі “Беларускі кнігазбор”, які сёлета выдаў 100-ы том айчыннай класікі.

А яшчэ ў 2019-м прагучала адна дужа абнадзейваючая дзяржаўная вымова – дырэктарцы беларускамоўнай Дзяржынскай гімназіі Галіне Паўхлеб, якая паспрабавала русіфікаваць давераную ёй установу адукацыі. І гэта таксама адбылося ў нашай краіне ўпершыню, што, несумненна, паслужыць добрым урокам усім астатнім дырэктарам, якія сваволю бацькоў былі гатовы паставіць па-над Канстытуцыяй...

Сыходзіць у гісторыю год, які не спарадзіў нейкіх тэктанічных зрухаў у беларускіх нетрах. Але ён шматкроць штурхануў нас, раскатурхаў ад доўгай дрымоты, якая пагражала перайсці ў летаргічны сон. Вельмі хацелася б, каб тыя жывыя штуршкі ад свайго папярэдніка падхапіў і надаў ім моцы 2020-ы, які ўжо ступае на наш парог.

**Як працуем?**

1 і 2 студзеня – выхадныя дні.
3 і 4 студзеня (пятніца і субота) – працоўныя дні.
5–7 студзеня – выхадныя дні.

Якуб КОЛАС

## Віншаванне

З Новым годам, з шчасцем новым!
Дай жа Божа, гэты год
Каб успомніў шчырым словам
Працавіты наш народ!
Каб казалі, што хацелі,
Каб не гнулісь, як цяпер,
Каб са страхам не глядзелі
На ураднікі каўнер;
Каб пабольшала нам поля,
Каб разрося вузкі луг,
Каб спявалі песні волі,
Ведучы вясною плуг.
Дай Бог шчасцейка і долі
Тым, хто слёзы праліваў,
Хто з сяўні на родным полі
Зерне праўды засяваў!



**СКАЗАНА!**

### Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

– Калі Расія паспрабуе парушыць наш суверэнітэт, вы ведаеце, як адрэагуе сусветная супольнасць, яны апынуцца ўцягнутымі ў вайну. Захад і НАТА ўжо гэтага (*меркаванага замаху на суверэнітэт Беларусі*) не перанясуць, бо яны палічаць гэта за пагрозу ім. І ў чымсьці яны (*Захад*) маюць рацыю.

*(Падчас інтэрв’ю галоўнаму рэдактару «Эхо Москвы» Аляксею Венядзіктаву.)*

**ВІЗІТ**

## Будзем сустракаць Майкла Пампеа?




У першыя дні новага года ў Маскву для сур’ёзных перамоў прылятае дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў Амерыкі **Майкл Пампеа**. Ёсць падставы лічыць, што ён наведае і Мінск. Беларускі бок, вядома ж, дужа зацікаўлены ў такім візіце. Хочацца спадзявацца, што ЗША маюць намер паглыбляць адносіны з нашай краінай, усведамляючы ціск Крамля на Мінск.

**МНЕНИЕ ПОЛИТОЛОГОВ**

## «США возвращаются в регион Восточной Европы»

### Валерий КАРБАЛЕВИЧ:

– США возвращаются в регион Восточной Европы. Штаты приняли решение создать здесь дипломатический, политический и, возможно, военный (если речь идет о Польше и Литве) барьеры на пути активных действий России в этом регионе. Беларусь также попадает в этот проект. Отсюда и увеличение числа визитов в нашу страну высокопоставленных американских чиновников (в 2019 году Минск посещали заместитель помощника государственного секретаря США Джордж Кент, советник президента США по национальной безопасности Джон Болтон и заместитель госсекретаря Дэвид Хэйл).

## «Беларусь не двигается на Запад. Это Запад двигается к Беларуси»

### Андрей ЕГОРОВ:

– Идет постепенное восстановление отношений между США и Беларусью. Восстанавливаются диппредставительство между странами на уровне послов и нормальная работа посольств. На этом фоне визиты высокопоставленных чиновников очень важны, поскольку поддерживают формат диалога, который раньше на таком уровне не шел…

…В США и ЕС нет четкого понимания того, что происходит. А независимость Беларуси для них стратегически и геополитически важна и является вопросом безопасности. Поэтому в общении с руководством Беларуси им хотелось бы понять, что происходит, добровольно или недобровольно Минск идет по пути интеграции.

…Но не нужно это воспринимать так, что Беларусь двигается на Запад. Все наоборот: Запад двигается к Беларуси, становится более вовлеченным в ее дела. Но, думаю, пока не стоит рассчитывать на какую-то конкретную помощь Запада – пока диалог не начнет идти в более-менее стабильном режиме.

*«Народная Воля»*
*в Facebook www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo*

**БЛІЦ**

## Што чакае Беларусь?

*Напярэдадні навагодніх святаў “Народная Воля” спыталася ў вядомых у нашай краіне людзей, што чакае Беларусь у 2020 годзе.*

**Віктар КАЗЬКО, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа і Прэміі імя Ежы Гедройца:**

– Такое пачуццё, нібыта Беларусь вяртаецца ў 1990-я гады, і наша дзяржаўнасць – нібы тая цацка, якую далі пагуляць, а зараз спрабуюць адабраць. Спадзяюся ўсё ж такі, што не адбяруць. І вельмі хочацца, каб у новым годзе людзі больш добра ставіліся не толькі да жывых, але ж і да продкаў. Бо ў адыходзячым годзе я з’ездзіў на Палессе, на могілкі сваіх бацькоў, і шмат чаго наглядзеўся.

**Валянцін БАЙКО, бізнесмен, член Савета Рэспублікі ад Гродзенскай вобласці:**

– Нікуды не падзенешся: краіну чакае многа працы. І хацелася б, каб у кожнага беларуса наперадзе было шмат сустрэч з новымі людзьмі і шмат усмешак.

**Віктар МАНАЕЎ, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст Беларусі, выканаўца ролі караля Ліра:**

– Я спадзяюся, што Беларусь не чакае рэвалюцыя. Вельмі на гэта спадзяюся, бо рэвалюцыя – гэта заўсёды кроў. А крыві не хочацца.

**Ганна СЕВЯРЫНЕЦ, настаўніца, пісьменніца, літаратуразнаўца, «Настаўнік года» Смалявіцкага раёна:**

– Думаю, нас чакае няпросты год. Хацелася б, каб ён быў насычаны справамі: па абароне спадчыны, мовы, годнасці, волі і незалежнасці. Нагодаў для гэтых спраў нам насыплюць з горкай.

**Аляксандр КАРСКІ, праўнук і біёграф акадэміка Яўхіма Карскага:**

– Я не надта ўважліва сачу за тым, што пішуць у газетах і інтэрнэце. Але мне хочацца верыць, што ў Беларусі не будзе такога канфлікту, які адбыўся ва Украіне, калі палітычныя рознагалоссі разрывалі сямейныя і сяброўскія сувязі. Спадзяюся, што навука застанецца па-за палітыкай і мы з калегамі зможам мірна сустракацца. Людзям хочацца верыць у лепшае.

**Юрый ГАРДЗЕЕЎ, доктар гістарычных навук, прафесар Ягелонскага ўніверсітэта:**

– На жаль, нас чакае стагнацыя. Запаволяцца тэмпы эканамічнага развіцця, застанецца сённяшняй палітычная сістэма, не адбудзецца і культурнага прарыву. Нават тапаніміка нашых вуліц застанецца наскрозь савецкай. І не лічыце мяне песімістам – я рэаліст...

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## Хто сустрэне Новы год за кратамі?

*Большасць удзельнікаў несанкцыянаваных антыінтэграцыйных вулічных акцый, якія прайшлі ў снежні, атрымалі вялікія штрафы.*

Як інфармуюць праваабаронцы, актывіст «Еўрапейскай Беларусі» **Леанід Кулакоў** асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Новы год ён сустрэне за кратамі. Кулакова таксама аштрафавалі на 1275 рублёў.

На 15 сутак арышту асуджаны актывіст Legalize Belarus і “Маладзёжнага блока” **Станіслаў Шашок**, адзін з лідараў КХП–БНФ **Алесь Чахольскі**, **Павел Севярынец**, **Леанід Кулакоў**, **Максім Вінярскі**, **Яўген Афнагель**, **Дзяніс Урбановіч**, **Алена Талстая** і **Сяргей Ціханоўскі**. Суд над **Вячаславам Сіўчыкам** перанеслі на нявызначаны тэрмін, паколькі ён знаходзіцца за мяжой.

**СТАТИСТИКА**

## Заработки белорусов в ноябре

*На руки среднестатистический белорус получил в ноябре примерно 957 рублей, что по сравнению с октябрем на 10 рублей меньше.*

Если брать по отраслям, то больше всех потеряли за прошлый месяц работники пассажирского воздушного транспорта – почти 374 рубля. Хотя средняя ноябрьская зарплата у них составила 2937,2 рубля.

А самые высокие заработки, как и раньше, у специалистов, занятых информационными технологиями и деятельностью в области информационного обслуживания. Их средняя зарплата в ноябре – 4247 рублей.

Можете себе представить: в это же время работники культуры в среднем заработали за месяц всего 647 рублей, соцработники – 670, специалисты, которые заняты творческой деятельностью и развлечениями, – 676, работники водного транспорта – 719, растениеводы – 793 рубля.

Народная Воля http://www.nv-online.info 31 СНЕЖНЯ 2019 г.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Старые грабли под Новый год

Пожалуй, последняя по времени новость уходящего 2019 года – известие о том, что Партия БНФ выдвигает кандидатом в президенты на предстоящих выборах Алексея Янукевича, бывшего председателя и нынешнего заместителя председателя организации.

У меня, признаюсь, нейтрально положительное отношение к господину Янукевичу, которого я давно уже не путаю по фамилии с господином Януковичем (был такой президент Украины, ныне проживающий в геополитическом пространстве между ближним Подмосковьем и Ростовом-на-Дону). Алексей – человек спокойный, владеющий некоторыми организаторскими навыками, в идею независимости верящий свято. Одно непонятно: зачем и почему он и его партия пошли на это выдвижение?

Хотя нет. Как раз это понятно. Кандидат в президенты у нас считается очень большим политиком, а 0,8% голосов, «нарисованных» ему Лидией Ермошиной, превращают его в собственных глазах и глазах окружающего прогрессивного человечества чуть ли не в Вацлава Гавела или Леха Валенсу. Выдвинулся, зарегистрировался, получил свои недопроценты – и можно мирно уходить на политическую пенсию. Или, скажем, опять возглавлять партию. Или создать NGO и получить на него грант.

То же и с партией. Партия смогла зарегистрировать кандидата – и вот уже ее представители на переговорах с донорами начинают втюхивать тем мысль: мы и только мы достойны внешнего финансирования, так что уж постарайтесь, господа-товарищи, а то нам за аренду партийного офиса платить нечем.

При этом всем – и партийцам, и донорам – совершенно по барабану, что же будет, как пел музыкант Юра, с родиной и с нами. Ни мы, ни родина в их расчеты не входят. В крайнем случае нам прочтут лекцию о необходимости партии получить доступ на телевидение, рассказать о своих целях и задачах и предложить тем самым альтернативу действующей власти. Ни о каких реальных переменах речь просто не идет.

В 2010 году решение этих партийных задач настолько напрягло всех зарегистрированных, что у них даже не хватило совести признаться и себе самим, и партийному активу: ребята, мы даже нужного количества подписей не собрали. Некоторые в качестве аргумента приводили бумажку от обвиняемой ими же в фальсификациях госпожи Ермошиной. Отказался регистрироваться лишь кандидат от Партии «зеленых» Юрий Глушаков, проявив немыслимую по белорусским меркам политическую порядочность. Ну, и кот Барсик еще отказался, а то в суматохе и его могли зарегистрировать.

Итоги мы знаем.

Повторюсь: Алексей Янукевич мне чем-то симпатичен, к Партии БНФ я претензий не имею. Просто сам факт этого выдвижения свидетельствует о том, что белорусская оппозиция – как та династия Бурбонов после Французской революции, о которой адмирал де Пана писал приятелю: «Увы! мой дорогой друг, это безумие является общим и неизлечимым. Мы в отчаянии: никто ничего не знает, никто ничего не забыл и никто ничему не научился». Только в нашем случае всех еще и амнезия поразила: оппозиционные политики все позабыли или сделали вид, что забыли. Но то, что ничему не научились, – это наверняка.

Я пытаюсь хотя бы помнить. Именно поэтому возникает вопрос: ребята, а у вас там, в офисе, на оплату которого хронически не хватает денег, хотя бы какой-то план есть? Ну фантастический, но все-таки... Я не спрашиваю, что вы будете делать после того, как придете к власти (потому что этого в принципе не будет). Я хочу понять: есть ли у вас план, как к ней прийти, к этой самой власти? В нынешних условиях, при госпоже Ермошиной (или ее преемнике), при выдвигающемся Лукашенко, при насмерть не верящем вам обществе – и при уже распущенной по городам, весям и посольствам версии о том, что вот сейчас уж точно Россия попытается сместить Лукашенко, чтобы сожрать нашу гордую до полного изнеможения страну. Есть план?

В последние месяцы известный философ и общественный деятель Владимир Мацкевич упорно заставляет весь белорусский политикум и тех, кто способен думать, сосредоточиться на обсуждении его плана. План совершенно фантастический: переучредить Республику Беларусь. То есть начать историю с повторения 1918 года. Его не смущает даже тот факт, что в результате может появиться «Рада БНР – 2» или, что еще хуже, новый вариант с неуничтожаемым президиумом Верховного Совета 13-го созыва.

Да, план Мацкевича фантастический, мало того – даже не научно фантастический. Но он хотя бы есть! С его автором можно спорить, если вдруг появится время, желание и безумный огонек в глазах. Но с Янукевичем и выдвинувшим его Костусевым даже спорить невозможно: они ведь просто не говорят о наличии плана. Какого бы то ни было. И если что – в лучшем случае скажут, что на такси мимо проезжали. Как в 2010 году. Ну, или что не в выборах участвовали, а в полумарафоне: не добежать, так согреться всей партией.

Я не Мацкевич. Плана на 2020 год у меня лично нет. Именно поэтому мое первое требование к новому претенденту на кандидатство, за подписью в чью пользу ко мне придут сборщики, – наличие плана изменения ситуации. План есть? Реальный? Подпись ставлю. Нет? Ребята, бегайте дальше. Это любимый вид спорта белорусской оппозиции – бег по разложенным граблям. Как там говорил Павел Северинец о ком-то из сподвижников: он уже двадцать пять лет проводит уличные акции. Опыт, как говорится, не пропьешь.

ДЫНАМІКА

## У дваццаць восьмы раз

*29 снежня ў дваццаць восьмы раз у гэтым годзе падаражэла аўтамабільнае паліва – зноў на 1 капейку.*

*Цяпер кошт аднаго літра бензіну АІ-92-К5-Еўра – 1,64 рубля, АІ-95-К5-Еўра – 1,74, АІ-98-К5-Еўра – 1,96 рубля. За такую ж колькасць дызельнага паліва трэба заплаціць 1,74 рубля.*



ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

# Сила – в единстве!

*А его нет даже в независимых профсоюзах*

«Народная Воля уже сообщала о том, что лидера Белорусского конгресса демократических профсоюзов **Александра Ярошука** не допустили на отчетно-выборную конференцию Независимого профсоюза горняков, которая прошла в Солигорске 26 декабря. Всего генеральный директор ОАО «Беларуськалий» отказал в пропуске на данное мероприятие шести из десяти заявленных НПГ гостей. Корреспондент «Народной Воли» было также среди людей, кого было решено «не пущать». За несколько дней до конференции тогдашний лидер НПГ **Сергей Черкасов** пригласил меня посетить конференцию. Но накануне перезвонил и сообщил, что моя фамилия значится среди тех, кому руководителем ОАО «Беларуськалий» заблокирован пропуск.

Выступая на открытии конференции на тот момент еще лидер НПГ Сергей Черкасов, отметил, что отказ пропустить на данное важное профсоюзное мероприятие Александра Ярошука и его заместителя – это нарушения со стороны руководства «Беларуськалия» закона «О профессиональных союзах», а именно ст.23 *(«Наниматели (их объединения), государственные органы, субъекты хозяйствования не вправе препятствовать представителям профсоюзов посещать организации, в которых работают члены этих профсоюзов, если иное не установлено законодательными актами Республики Беларусь»).*

…Конференция проходила бурно. Велась онлайн-трансляция, просмотрев которую, можно сделать вывод, что атмосфера в зале была достаточно напряженной.

Заранее было известно, что Сергей Черкасов баллотироваться на пост председателя больше не будет. На конференции он объяснил это свое решение тем, что устал и принцип демократии требует находиться на посту руководителя не более двух сроков, которые он уже отбыл в этом качестве. Добавил, характеризуя свою работу: «*Я старался работать не так скрыто, не так манипулятивно, а открыто*». Много говорил в своем отчете о проблемах, с которыми столкнулся профсоюз в последнее время.

Присутствующие делегаты поднимали вопросы об уменьшении численности в НПГ, скрытой дискриминации по отношению к ее членам со стороны администрации. Заместитель председателя **Анатолий Рылов** озвучил свою точку мнения на этот счет: мол, дискриминация – это инициатива на местах отдельных начальников, а вовсе не генерального директора.

Руководитель предприятия в своем выступлении заявил: для него нет разницы, в каком профсоюзе состоит работник. Одна из делегаток нашла в себе смелость публично возразить ему: мол, разве не от вас все исходит?

Острой и яркой была речь баллотировавшегося на пост председателя НПГ **Александра Мишука**. Его называют представителем молодого поколения. Он говорил о том, что в людях присутствует страх, связанный с непродлением контракта. И этот страх мешает активно отстаивать свои права. Работники не верят в то, что могут что-то изменить. На его взгляд, сами слова: «солидарность», «справедливость», «свобода», отражающие принципы, которые были так важны для Независимого профсоюза при его создании и в первые годы его деятельности, на сегодняшний день для многих уже звучат непонятно. «Давление на профсоюз – это прямой результат отсутствия единства в наших рядах».

А.Мишук озвучил мысль: наниматель перестал считаться с независимым профсоюзом, потому что силы в профсоюзе нет, нет единства. Сказал, что, по данным опроса, который был проведен среди членов профсоюза, практически 80 процентов человек заявили, что они защиты своих интересов в профсоюзе не ощущают. По мнению Мишука, нынешние методы работы профсоюза недейственны и нужно их менять. Необходимо вернуться к основе, которую ставили во главу угла при создании профсоюза: справедливость, солидарность, демократичность, открытость.

Упомянул он и о содержании программы по реформированию деятельности НПГ, которая была разработана им и его единомышленниками. Программа эта, в частности, включает новую систему обучения актива и рядовых членов профсоюза, алгоритм действий по защите членов НПГ в случае давления на них со стороны нанимателя из-за его членства в профсоюзе, кадровая политика.

За Александра Мишука в процессе голосования как за нового лидера НПГ проголосовал 51 человек. Большинство – 99 человек – отдало свои голоса за **Юрия Захарова**, бывшего до этого заместителем председателя НПГ. Выступая на конференции как кандидат на пост председателя, Юрий Захаров сказал, что считает своей главной задачей сохранить то, что есть, то, что (у членов профсоюза) в кармане в виде заработной платы, условий труда, коллективного договора и социального партнерства. Он подчеркнул: мы работаем для достижения социальных благ и гарантий через коллективный договор.

Как там сложится дальше – увидим.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*г.Солигорск.*

НА ЗАМЕТКУ!

# Что изменится с 1 января?

*Новые таможенные правила, Трудовой кодекс, тарифы ЖКУ и зарплаты*

### Вырастет базовая величина

Базовая величина изменится с 1 января 2020 года – с 25,5 до 27 рублей. Ее в Беларуси повышают раз в год – с 1 января. Соответственно вырастут размеры пошлин, сборов и штрафов, которые привязаны к базовой.

Увеличение базовой величины с 1 января 2019 года составило 1 рубль – с 24,5 до 25,5 рубля, напоминает myfin.by.

### Повысится «минималка»

С 1 января 2020 года минимальная зарплата в Беларуси составит 375 рублей (постановление Совета министров Республики Беларусь от 29 августа 2019 г. №582).

Минимальную заработную плату повышали в январе 2019 года до 330 рублей.

### Обмен "старых" денег только в Нацбанке

В Беларуси «старые» денежные знаки (имевшие хождение до деноминации) можно будет обменять на «новые» только в Национальном банке Республики Беларусь. Сделать это можно будет с 1 января 2020 года по 31 декабря 2021 года включительно по адресу: г.Минск, ул.Толстого, 6. Обмен производится без ограничений и взимания комиссионного вознаграждения.

С 1 января 2022 года денежные знаки образца 2000 года станут недействительными.

### Провозить бытовую технику через таможню станет дешевле

С 1 января 2020 года при ввозе товара на территорию ЕАЭС понятие "неделимый товар" не будет применяться. При ввозе в Беларусь крупной бытовой техники можно будет сэкономить на таможенных платежах.

### Таможенную пошлину на посылки снизят

В странах ЕАЭС с 1 января 2020 года снизят лимиты беспошлинного ввоза товаров в международных почтовых отправлениях до 200 евро и 31 килограмма в месяц. Это предусмотрено решением ЕЭК по поэтапному сокращению норм. При этом со следующего года в два раза сократится таможенная пошлина за перевес посылок.

### Вступит в силу новый Трудовой кодекс

В Беларуси в новом году вступят в силу изменения в Трудовой кодекс. Среди новшеств, в частности, увеличение выходного пособия (при увольнении из-за неполного рабочего времени), возможность во время отпуска трудиться по совместительству полный рабочий день или смену. Отцы по желанию смогут взять отпуск до 14 дней при рождении в семье ребенка. Предусматривается также гарантия занятости для добросовестных работников – заключение с ними долгосрочных контрактов.

### Начнет действовать обновленный Жилищный кодекс

С 1 января 2020 года будет действовать обновленный Жилищный кодекс. Документ регулирует ряд вопросов в жилищных отношениях, упрощает управление совместным имуществом. Основные изменения также связаны с проведением ремонта жилищного фонда, в том числе с функционированием счетов, на которых аккумулируется плата за капремонт. Предусматриваются компенсация за непригодное для проживания жилье, новшества для очередников и другие изменения.

### Подорожают услуги ЖКХ

Стоимость жилищно-коммунальных услуг в следующем году традиционно повысится на 5 долларов в эквиваленте. В 2019 году повышение тарифов проводилось в два этапа.

### Увеличится пенсионный возраст

В 2020 году на 6 месяцев увеличится возраст выхода на пенсию и минимальный страховой стаж, необходимый для получения трудовой пенсии. Пенсионный возраст для мужчин составит 62 года, для женщин – 57 лет. Минимальный страховой стаж составит 17,5 года.

### Изменится стоимость шенгенской визы

Ожидается, что в январе 2020 года может быть подписано соглашение с ЕС по упрощению визового режима и реадмиссии. В результате шенген для белорусов подешевеет до 35 евро. Но надо иметь в виду, что до вступления в силу этого соглашения начнет действовать новый Визовый кодекс ЕС и стоимость шенгенских виз может вырасти с 60 до 80 евро (со 2 февраля 2020 года).

УСМЕШКА МАСТАКА




ДА ВЕДАМА

### Як будзе працаваць метро ў пераднавагоднія дні і ў навагоднюю ноч

1 студзеня з 00:00 да 4:15 інтэрвал руху цягнікоў складзе 6 хвілін на кожнай лініі. Станцыі «Няміга» і «Кастрычніцкая» будуць зачынены на ўваход у 4 гадзіны 15 хвілін. Усе астатнія станцыі будуць зачынены на ўваход ў 4:00.

31 снежня метрапалітэн будзе працаваць па графіку пятніц; 1, 2, 5, 6 і 7 студзеня 2020 года – па графіку нядзельных дзён; 3 студзеня 2020 года – па графіку будных дзён; а 4 студзеня – па графіку пятніц.

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

## Курьезный случай

Поскольку он произошел в этом году и связан с публикацией в «Народной Воле», то и к нему вернуться следует не в 2020-м, а еще в 2019 году.

Что и говорить, наши читатели – очень и очень внимательны, с чем мы их и поздравляем. Заметили и сразу же позвонили в редакцию: в статье **«Почему «капиталист» Владимир Адамович ходит хмурый…»** («НВ» за 25 декабря) автор не преминул упрекнуть госконтролеров в неточности (вместо 100 процентов они написали 1000), а сам в конце статьи допустил такой же досадный промах. И действительно, месячная зарплата людей в инвестируемом хозяйстве возросла не почти в пять раз, а почти в три раза (была 552 рубля, а стала около 1400).

Что ж, и нам, журналистам, нужно смотреть, как говорится, в оба глаза. Проглядел не только автор, но и все остальные, кто был причастен к выходу того номера газеты.

Извиняясь, скажем внимательным читателям спасибо и подчеркнем: «Народная Воля» никогда не скрывала своих ошибок и не будет скрывать впредь. К сожалению, как гласит народная мудрость, не допускает их только тот, кто ничего не делает.

**Редакция.**






С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# 100 тысяч долларов Тимы

Слышали? 20-летний рэпер Тима Белорусских, уроженец Минска, за выступление на новогоднем корпоративе просит не менее 100 тысяч долларов.

Сто тысяч долларов! Может быть, парень рухнул с дуба?

Нет. Артист недавно вышел на широкие просторы шоубиза и оказался сильно востребованным. Он в топе, как в советское время говорили, в передовиках. А на рынке как: выставляешь цену – покупатели платят. Или отказываются платить.

Но 100 тысяч долларов за шоу? Скажете, в Беларуси вряд ли найдутся дураки (пусть и очень богатые), которые выложат такие деньги. А Тима, скорее всего, и не рассчитывает на земляков. Под боком огромная Россия, и в ней многим широко гульнуть хочется. И их корпорации, владеющие, например, недрами – скважинами, рудниками, имеют такие сверхдоходы, что раз в году покупают артистов за сверхгонорары. Может быть, они так просто делятся прибылью? Хоть с кем-то… Чтобы утолить свою печаль... А кто им запретит? Никто. Они собственники.

И это, согласитесь, обычных людей коробит. Коробят перекосы российского капитализма, который запросто прогуляет на праздниках несколько больниц, театров и отремонтированных дорог в глубинке. Прогуляет, как в лужу пукнет. Завтра, может, и имен певцов не вспомнит. Но зато какое эхо останется!.. Особенно у тех, кто живет на бюджетную зарплату.

Не стану утверждать, что в России полная нищета, но большая часть людей живет все-таки сложно или очень сложно. А тут многомиллионные банкеты под музыку. Какой-то мрак, распад, и Тима Белорусских здесь, в общем-то, не виноват. Он птичка певчая, хотя и рэпер. Ему крошат на стол зерна – надо клевать, пока дают. Ведь долго такой хайп не продлится.

Кстати, есть и подороже артисты, чей новогодний гонорар 200 тысяч долларов. Та же Алла Пугачева или Земфира. (Кстати, Алла Борисовна именно на корпоративах, под селедку, не поет, отдадим должное ее принципам.) Но вот Филипп Киркоров под елочкой выступает, и в этом году – за 160 тысяч долларов. Не говоря уже о всенародном, всеженском любимце Стасе Михайлове, который соглашается работать «всего» за каких-то 65 тысяч долларов – а наш-то Тимофей, выходит, ого-го как прыгнул!

Конечно, я далека от иллюзии об установлении полной и безоговорочной справедливости на земле, но привкус горечи от такого новогоднего кагала есть, он, как говорится, присутствует. Как мы мечтали о творческой жизни без цензуры, надзора, перлюстрации, без запретов. И вот вам, как оказалось, ее совершенно безграничные и очень часто просто безнравственные результаты: любят и платят мальчику, который полупоет-полудекламирует свои стишки (кстати, с ошибками). Он, видите ли, сейчас хитовый. Что, вам тоже грустно? Ну, развлекитесь тем, что читаете о его баснословных гонорарах.



SOS!

# Непосильная приватизация

## Радовались и такому жилью

В конце 1960-х годов на улице Ленина в Солигорске построили два пятиэтажных дома. Определили их под малосемейные общежития «Беларуськалия». От семи до двенадцати квадратных метров – такова была в основном площадь комнаток, в которые заселяли молодые семьи работников предприятия, одиноких матерей с ребенком либо специалистов-холостяков. Из удобств – микроскопическая прихожая, кухня, туалет и кран с раковиной.

В те времена зарплаты у горняков были не ахти какие, поэтому люди радовались и такому жилью, которое обходилось намного дешевле, чем съемная квартира. К тому же жильцы этих малосемеек были уверены, что обитать в них они будут временно. Люди стояли в очереди на получение государственного жилья и действительно через несколько лет многие переезжали в просторные квартиры, а их места в общежитиях занимали другие.

Но после развала СССР возможность приобретения бесплатного жилья от предприятий и государства для обычных граждан быстро сошла на нет. Вместо этого в том же «Беларуськалии» стали предоставлять своим работникам займы для строительства квартир через жилищно-строительные кооперативы. Но и здесь образовалась очередь. Упомянутые общежития по-прежнему были заселены под завязку.




## Из клетушек – в однокомнатные квартиры

С Олегом Колядко и Татьяной Клишевич мы сидим за чаем в одном из солигорских кафе.

– *Надеемся, что благодаря «Народной Воле» нас услышат,* – говорит Татьяна. – *Это не только наша боль, это боль всех жильцов домов, которые еще недавно имели статус общежитий. Мы все оказались в отчаянном положении.*

Олег Николаевич Колядко проработал в шахте с 1995-го по 2016 год. Потом у него за короткий промежуток времени случились два инфаркта, и он стал инвалидом второй нерабочей группы. Татьяна Борисовна трудится на Третей обогатительной фабрике с 1992 года.

Комнату в 7 квадратных метров Олег с женой получили в 1998 году. Через несколько месяцев после новоселья на свет появилась дочь Саша. На этой мизерной площади жили втроем.

Татьяна заселилась в общежитие в 1996 году. Тогда у нее была одна дочь. Соседи считали ее везунчиком – комната площадью целых 11,6 квадратного метра!

А в 2003 году уже всем жильцам малосемейки крупно повезло: общежитие реконструировали. Кто-то переселился в построенные новые дома, остальные, включая семьи Татьяны и Олега, вернулись после реконструкции в переделанные из их клетушек полноценные квартиры. Пусть и однокомнатные, но с бóльшим метражом. Так, общая площадь однокомнатной квартиры Олега составляет 49,6 квадратного метра, у Татьяны – 47,5. Через два года точно так же перестроили общежитие по ул.Ленина, 7. Надо ли говорить, что многие из обитателей этих домов тогда считали, что их жилищный вопрос в какой-то степени решен. Хотя часть людей, включая Татьяну и Олега, по-прежнему стояли в очереди на расширение.

Но шло время, и становилось понятно, что выбраться из этих малометражных квартирок не так-то просто…

– *Наши дома после реконструкции остались в статусе общежитий государственной формы собственности и в ведении РУП «Беларуськалий»,* – рассказывает Олег Колядко. – *В 2010 году предприятие изменило форму собственности с РУП на ОАО. Провели акционирование. И дома были переданы обществу в собственность.*

По словам моих собеседников, тогда мало кого из жильцов обеспокоил подобный поворот событий. Люди были уверены, что на их судьбе это негативно не отразится.

В 2015 году жильцы этих домов решили приватизировать квартиры.

– *Нас подгоняли сообщения о грядущем окончании сроков приватизации государственных квартир и появившаяся информация о том, что «Беларуськалий» принял решение включить все жилые помещения, находящиеся в его собственности, в состав жилых помещений коммерческого использования. В приватизации жилья людям тогда отказали,* – продолжает Олег Колядко.

Вскоре после этого квартиры в означенных домах перешли в разряд арендного жилья, и людям помимо коммунальных платежей пришлось доплачивать немалые суммы уже за аренду.

Татьяна и Олег говорят, что арендная плата ежемесячно вытягивает из их кошелька 200 рублей.

*«В 2019 году дома перестали быть общежитиями (о чем жильцы узнали последними), и теперь мы понимаем, что это было заранее продуманная схема, разработанная для того, забрать у людей последнее»,* – прочитала я в коллективном обращении жильцов домов №№5 и 7 по ул.Ленина президенту Республики Беларусь.

Люди просят позволить выкупить жилье по оценочной стоимости с первоначальным взносом 10–15 процентов и рассрочкой на 20 лет.

Татьяна и Олег утверждают: условия, на которых «Беларуськалий» предложил выкупить квартиры, подавляющее большинство жильцов считают кабальными и несправедливыми. А многих эти условия вообще ввергли в отчаяние.

Мои собеседники уточняют: во-первых, цена, по которой продают квартиры, откровенно коммерческая – приблизительно 30 тысяч долларов за квартиру. Это намного выше, чем остаточная стоимость жилья в домах, которым уже по 50 лет. Понятно, право определения цены за «Беларуськалием». Но ведь подавляющее большинство нынешних нанимателей квартир – это работники или те, кто до выхода на пенсию трудился на его предприятиях. Почему не учесть это?

Собеседники уверяют: людей обижает и очень расстраивает еще и то, что первоначальный взнос при выкупе квартиры определен в 25 процентов, а сама рассрочка по выплате остальной части дается только на 10 лет. Рассрочка дается под 5 процентов годовых, и, чтобы ее получить, нужно поручительство двух человек. А кто за пенсионеров и инвалидов может поручиться?

Обращались жильцы данных домов со своей проблемой к председателю первичной профсоюзной организации Белорусского независимого профсоюза ОАО «Беларуськалий» Сергею Черкасову. Он не остался безучастным. Направил письмо председателю наблюдательного совета ОАО «Беларуськалий» Н.Г.Снопкову. В частности, Черкасов написал: *«В данных домах проживают… в том числе люди с невысокими доходами: пенсионеры, инвалиды, семьи с детьми, для которых сложно внести первоначальный взнос в размере 25 процентов стоимости квартиры, а ежемесячное погашение задолженности по оплате стоимости квартиры и процентов за пользование рассрочкой ставит данных людей, их семьи на грань выживания».* Сергей Черкасов от лица первичной профсоюзной организации НПГ предложил внести изменения в Положение о порядке продажи жилых помещений, находящихся в собственности ОАО «Беларуськалий». В частности, речь идет об уменьшении размера первоначального взноса до 10 процентов и увеличении рассрочки до 20 лет. Также он предложил наблюдательному совету отменить поручительство или уменьшить количество поручителей до одного физического лица, не взимать проценты за пользование рассрочкой.

Лидеру НПГ пришел ответ за подписью генерального директора ОАО «Беларуськалий» И.И.Головатого. Упомянутые предложения Черкасова были отклонены, приводились основания отказа.

Жильцы упомянутых домов обращались и в другие инстанции, но ответы сводились к тому, что организации негосударственной формы собственности вправе самостоятельно определять условия продажи жилых помещений, находящихся в их собственности. На ОАО «Беларуськалий» они в этом вопросе повлиять не могут.

## Люди надеются…

Как же быть тем, кто оказался в крайне трудном положении? Татьяна подсчитала, что ежемесячно после платежа банку за кредит, который ей придется брать на первоначальный взнос, и выплаты ежемесячной рассрочки на жизнь будет оставаться рублей 400. А ведь у нее дочь-школьница, которую нужно и кормить, и одевать, и обучать.

Я спросила у своих собеседников, осталась ли у них хоть какая-нибудь надежда на изменение ситуации. Им, услышала, хочется верить, что руководство «Беларуськалия» все же пойдет навстречу и снизит первоначальный взнос до 10–15 процентов, а рассрочку по оплате жилья продлит до 20 лет.

Что ж, дай Бог, чтобы так и произошло. Градообразующее предприятие не должно бросать на произвол судьбы тех, кто отдал ему часть своей жизни.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*г.Солигорск.*

КРЫМІНАЛ

# «Пагоны» і карупцыйныя спакусы

*За што асудзілі трох дырэктараў, у тым ліку і былога кіраўніка Буда-Кашалёўскай ЖКГ?*

“Народная Воля” паведамляла 13 снежня на сваім сайце, што Гомельскі раённы суд пакараў былога дырэктара КЖУП “Буда-Кашалёўскі камунальнік” **Сяргея Мішакова** за хабарніцтва і наўмыснае перавышэнне службовых паўнамоцтваў з асабістай карыслівай зацікаўленасці 6 гадамі зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Разам з Мішаковым па адной крымінальнай справе асуджаны яшчэ два кіраўнікі: за дачу хабару на 2 гады зняволення дырэктар прыватнага прадпрыемства “Святлацень”, грамадзянін Расіі **Сяргей Вуглоў** і на 3 гады зняволення за атрыманне хабару дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства “Навабеліцкае Гомель” **Аляксандр Абраменка**, які на момант затрымання працаваў галоўным інжынерам КЖРЭУП “Чыгуначнае”.

## Святлацені крымінальнага колеру

На пасаду дырэктара КЖУП “Буда-Кашалёўскі камунальнік” Сяргей Мішакоў патрапіў крыху больш за паўдзясятка гадоў таму, калі яму не было яшчэ і сарака. Ураджэнец Кармянскага раёна з вышэйшай адукацыяй, ён ужо на той час меў неблагі досвед кіраўнічай працы. Як-ніяк узначальваў прадпрыемства меліярацыйных сістэм, камунальную службу і быў нават наменікам старшыні Чачэрскага райвыканкама, куратарам будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі цэлага раёна, а на дадатак яшчэ і дэпутатам райсавета 27-га склікання. Але не ўсё гладка атрымлівалася на папярэдняй пасадзе, і Мішакоў уладкаваўся на працу ў суседнім раёне, нашмат большым, чым Чачэрскі. Пасада хоць і ніжэйшая па рангу, але з большымі магчымасцямі і лепшым заробкам. Камунальная гаспадарка ў Буда-Кашалёве вялікая, адных работнікаў налічваецца звыш 600 чалавек.

– У выканкаме толькі “пагоны”, а ў гаспадарчых арганізацыях – усё тое, што называецца таварна-матэрыяльнымі каштоўнасцямі, – тлумачыць розніцу адзін з колішніх адказных чыноўнікаў.

Цяжка сказаць, дзе, як і калі да Мішакова прыйшло адчуванне таго, што пасада, няхай сабе і ў камунальным прадпрыемстве, – гэта неблагая магчымасць мець апроч заробку чыноўніка пабочныя бонусы.

Так ці інакш разважаў дырэктар, але, будучы ў жніўні 2017 года ў Гомелі, Сяргей Мішакоў падчас сустрэчы з дырэктарам прыватнага прадпрыемства “Святлацень” Сяргеем Вугловым дамовіўся перадаць яму без конкурсных працэдур інфармацыю наконт планаваных закупак камунальна-жыллёвым прадпрыемствам ліхтароў для вулічнага асвятлення, а таксама розных матэрыялаў для рамонту кацельняў і цеплазабеспячэння. Больш за тое, паабяцаў Вуглову, што абярэ прадпрыемства “Святлацень” пастаўшчыком патрэбных матэрыялаў, заключыць адпаведныя дамовы і на пастаўкі. Вядома ж, за гэта Вуглоў у сваю чаргу ўзяўся аддзячыць Мішакову. Дамовіліся нават пра памер “падзякі”, дакладней, хабару – 10 працэнтаў ад сумы дамоў.

Як выявіла следства і пацвердзіў суд, так яно і было. Пачынаючы з лістапада 2017 года і па кастрычнік 2018-га Мішакоў атрымаў ад Вуглова 18 тысяч рублёў хабару за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, якія ўваходзілі ў яго кампетэнцыю.

Дырэктар КЖУП асабіста заключаў дамовы, даваў падпарадкаваным яму работнікам указанні набываць у прыватнага прадпрыемства “Святлацень” ліхтары, іншыя патрэбныя матэрыялы па значна завышаных коштах. Паводле дамоў, на адрас “Буда-Кашалёўскага камунальніка” прыватнае прадпрыемства паставіла таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў на 290,3 тысячы рублёў. Суд канстатаваў, што гэта пацягнула за сабою цяжкія наступствы. Праз пераплату “Буда-Кашалёўскаму камунальніку” нанесена шкода ў асабліва буйным памеры – на 138,7 тысячы рублёў.

Схема залагоджвання камунальных кіраўнікоў дырэктарам “Святлаценю” Сяргеем Вугловым раней была апрабавана на Аляксандры Абраменку, які ў той час працаваў галоўным інжынерам КЖРЭУП “Чыгуначнае” ў абласным цэнтры, а пасля ачоліў КЖРЭУП “Навабеліцкае Гомель”. Увесну 2017 года Вуглоў дамовіўся з Абраменкам пра пастаўку камунальнікам Чыгуначнага раёна свяцільнікаў. Гэтаксама з адпаведнай “падзякай” – 3 працэнтамі ад сумы ўгоды. І ўжо ў чэрвені перадаў галоўнаму інжынеру хабар – тэлевізар “Supra” коштам 450 рублёў. Крыху пазней, як сцвярджаецца ў судовым прыгаворы, Абраменку перадалі не менш за 1800 рублёў хабару за тое, што абраў пастаўшчыком свяцільнікаў менавіта ПГУП “Святлацень”.

На судзе ў сваім апошнім слове Аляксандр Абраменка цалкам адмаўляў сваю віну.

– Я не парушаў Крымінальны кодэкс, не ўчыняў злачынстваў, у якіх мяне абвінавачваюць. Прашу не пазбаўляць дзяцей бацькі, а мяне – магчымасці ўдзельнічаць у іх выхаванні, – прасіў Абраменка, але суд палічыў яго віну ў атрыманні хабару таксама даказанай і пакараў 3 гадамі зняволення.

## Атрыманне і дача хабару – цяжкія злачынствы

Усіх трох фігурантаў карупцыйнай крымінальнай справы затрымалі і арыштавалі летась у снежні. На суд іх прывозілі з СІЗА. Туды іх вярнулі пасля абвяшчэння прыгавору. Праз сваіх адвакатаў Мішакоў і Абраменка аспрэчваюць прыгавор у абласным судзе. Як вырашыць вышэйшая судовая інстанцыя, скажаць цяжка. Атрыманне, дача хабару, а таксама перавышэнне службовых паўнамоцтваў з асабістай карыслівай зацікаўленасці і з нанясеннем істотнай шкоды дзяржаўным і грамадскім інтарэсам лічацца цяжкімі злачынствамі. Згаданым кіраўнікам нават пасля адбыцця пакарання нельга будзе працяглы час займаць кіруючыя пасады на прадпрыемствах усіх форм уласнасці.

У асяродку буда-кашалёўскіх камунальнікаў па-рознаму ўспрымаюць суд над былым кіраўніком. Адны спачуваюць, іншыя лічаць, што так і трэба, бо ўсялякія карупцыйныя схемы вядуць да падвышэння коштаў на камунальныя паслугі і павелічэння бюджэтных выдаткаў на ўтрыманне ЖКГ. І тое і другое ўрэшце зноў-такі б’е па кішэні звычайных людзей, падаткаплацельшчыкаў.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

ИЗ НАШИХ!

## Алена СВИРИДОВА:
# «Границ для меня не существует»

*Алена Свиридова не выступала в Минске уже пять лет. Хотя все так же поет, у нее так же много концертов, да и в родном Минске бывает – здесь живет мама. В декабре концерт наконец состоялся на филармонической сцене: теплая, живая акустическая программа, публика не жалела аплодисментов. У Алены и песни есть новые, и книги, да и вообще событий в жизни хватает. Об этом любит посудачить желтая пресса, так же как и о секретах красоты и молодости. Мы и об этом с Аленой Свиридовой поговорили.*

**– В последние годы в Минске вы бываете нечасто. Замечаете какие-нибудь изменения?**

– Минск очень красивый! Он и был красивым, но становится еще лучше – говорю искренне и с восхищением. Сейчас это абсолютно европейский город с европейским менталитетом – тихим и спокойным, с множеством замечательных мест, где можно провести свободное время. Ведь даже спальные районы, которые строились еще во времена моего детства, хорошо отремонтированы, придомовые территории обустроены. Минск создает впечатление благополучного города, особенно в сравнении с той же Москвой.

**– Я видела ваш пост в «Инстаграме» об этом, но там вы еще добавили: *«Я родилась в Советском Союзе. У меня остались имперские замашки. Всё родное, все мое. Границы существуют, но в моей голове и в моем сердце их нет. Люблю Беларусь!»***

– Я на самом деле и Беларусь люблю, и Украину – вообще все республики советские – и до сих пор не могу понять, что они уже не наши. У меня ведь даже один сын наполовину белорус, второй наполовину украинец. И Россию люблю, Москву. Я вообще, честно говоря, границы не очень признаю, для меня их не существует.

**– У вас и семейные связи по всему миру – старший сын, как и первый муж, живет в Канаде, второй муж был американцем – свадьбу играли на Карибах, с отцом младшего сына вы познакомились в Кении, ваш нынешний избранник из Армении…**

– Я воспринимаю границы как некую формальность. И в Минске у меня дом – сюда приезжаю к маме, но мои и Киев, и Питер, и Рига с Вильнюсом, само собой, Москва. И еще у меня дача в Керчи, где я родилась. Да и вообще, у меня такая особенность: я везде чувствую себя как дома – там, где хорошо, где здорово, там вроде всё мое, родное.





**– Вы не выступали в Минске пять лет. И вот достаточно неожиданно ваш концерт состоялся на сцене Белгосфилармонии: акустическая программа, старые и новые песни, очень теплый прием публики. В последнее время вы работаете именно в таком формате. Устали от хитов, от электронных ритмов, от модной музыки?**

– Когда все идут направо, я пойду налево.

Сейчас отовсюду звучит рэп, что-то электронное, танцевальное. Действительно устала. Поэтому и сделала акустическую программу с абсолютно живой музыкой: рояль, гитара, контрабас и так далее. Кстати, наукой ведь доказано, что вибрации деревянных музыкальных инструментов – не электронных, а настоящих – очень благоприятно воздействуют на человеческую психику.

**– Вы, как я понимаю, не большой фанат современной поп-музыки…**

– Да. Но есть среди новой музыки и многое такое, что мне нравится. Кстати, вот – Макс Корж мне очень нравится, и я горжусь, что он белорус. Мой ребенок 15-летний его вовсю слушает, и я вместе с ним – Коржа уважаю сильно!

**– У меня есть ощущение, что в последние годы мы стали о вас реже слышать, реже вас видеть. Я не ошибаюсь?**

– Как вам сказать… Я перестала кормить собою телевидение и хожу туда исключительно за гонорар, потому что это занимает кучу времени и сил, да и нет никакого желания опять рассказывать про мужей или нести другую чушь. Заряжаю телевидению такие цены, чтобы отмести всякие поползновения на этот счет. Сама я не смотрю телевизор уже лет 15, но понимаю, что там ценится. А мне совершенно не близко это понятие – «хайп», мне от него аж чесаться хочется – недаром оно на букву «х». Услышит ли мои песни в таком случае большое количество народа? Не факт. Хочется ли мне всенародной популярности? Хочется, но не любой ценой.

**– Но если судить по интернету и по количеству статей, поговорить на**

**– У вас только что вышла новая книга – «Счастье без правил»…**

– Я очень довольна своей новой книгой. Она от первого лица, она про меня, эти истории со мной происходили в реальной жизни, но это не автобиография и не мемуары. Скорее это сборник эссе на самые различные темы: возраст, красота, любовь, друзья, дети, музыка, вдохновение. Мне кажется, написано интересно, легко, к тому же весело и местами даже смешно. До сих пор не уверена, удачное ли название «Счастье без правил», потому что я хотела назвать книгу «Острое воспаление счастья» – эту фразу произнес мой сын, и мне она ужасно понравилась. Но в издательстве сказали, что воспаление будет ассоциироваться с чем-то медицинским, и я не настояла на своем. Дело в том, что «воспаление счастья» может застичь тебя в совершенно неподходящем месте и по абсолютно пустяковому поводу – вот что особенно ценно! И это более точно отражает сущность моей новой книги да и моего подхода к жизни.

**– Никто не бывает постоянно счастлив, но есть ощущение, что вы находитесь в гармонии с собой, живете с удовольствием…**

– Да, мне кажется, я человек, которому очень крупно повезло. Потому что еще с детского сада, судя по всему, знала свое предназначение. У меня до сих пор дома стоит мой детский рисунок – мама его сохранила. Мне было пять лет, и я нарисовала концерт: сцена с красным занавесом, плюшевый, как в те годы было принято, микрофон, певица, гитарист и баянист. Почему-то именно баянист *(смеется)*. В детстве я несказанно радовалась, выходя петь или читать, – меня в школе всегда выбирали, потому что я это делала громко и с удовольствием. И какое счастье, что я стала артисткой! Это именно то, для чего я родилась, поэтому и есть ощущение гармонии.

**– Но гармония у вас ведь не только на сцене – и в личной жизни всё выстраивается как-то ярко, красиво, и мужчины у вас все время такие интересные и молодые.**

– Понимаете, гармония внутри человека. Ты не можешь быть счастлив за счет чего-то там… Только за счет себя, внутри себя. Тогда и люди к тебе начнут притягиваться. А если ты такая вся несчастная: «Ой, у меня нет любимого мужчины, вот если б он был, я была бы счастлива…» Ерунда! Если ты несчастлива, то с тобой и мужчина будет несчастлив и быстро сбежит. Мужчины притягиваются к огню, им ведь хочется погреться! Да я и по себе знаю, бывали в жизни и совсем темные полосы: когда огонь в тебе потух, когда ты похожа просто на какую-то черную дыру и очень хочешь, чтобы кто-то поддержал и подпитал своей энергией – люди от тебя бегут, как от чумы. И никто тебе не поможет, только ты сама. Ты сама можешь настроить себя, как расстроенную гитару, чтоб она опять издавала прекрасные гармоничные звуки. Тогда и мужчины потянутся. Счастье ведь в твоем отношении к жизни да и просто в том, что ты живешь. Потому что пока ты делаешь вдох, кто-то уже умер – а ты живешь и дышишь. Об этом никогда нельзя забывать.

**Надежда КУДРЕЙКО.**
**Фото Александра ГОРБАША.**
**На фото: Минский концерт в Белгосфилармонии.**

ТУРЫЗМ

# «Можна на лыжах у Букавелі пакатацца, а нехта захоча ў В'етнаме на моры пагрэцца…»

*Эксперт у вобласці турызму **Лілія КОБЗІК** распавяла "Народнай Волі", дзе беларусы адпачываюць зімой.*

– Многія адпачываюць і на самай справе не толькі летам, але і ў зімовы перыяд, – кажа наша суразмоўца. – Хтосьці застаецца дома, нехта ляціць у цёплыя краіны, на мора. Звычайна адпраўляюцца ў Егіпет, Тайланд, Ізраіль альбо В'етнам. Гэта самыя папулярныя ў беларусаў накірункі.

Дарэчы, В'етнам – узыходзячая зорка беларускага турыстычнага рынку. У многіх, магчыма, раней было ўяўленне, што гэта нейкая недаразвітая і нецікавая краіна, але зараз В'етнам развіваецца высокімі тэмпамі. Будуюцца еўрапейскія гатэлі, вельмі добры сэрвіс і даволі нізкія кошты. Да таго ж паміж нашымі краінамі – бязвізавы рэжым, 15 дзён можна знаходзіцца ў В'етнаме без візы. Адзіная нязручнасць – туды няма прамых авіярэйсаў з Мінска, таму нашы турысты лятаюць звычайна праз Маскву.



**– Кажуць, што ў Егіпце не так даўно было некалькі выпадкаў атручэння беларускіх турыстаў, а таму некаторыя адмаўляюцца ехаць у гэтую краіну і здаюць пуцёўкі…**

– Масавай адмовы не было, але трэба прызнаць, што зараз попыт на адпачынак у гэтай краіне стаў меншы. І гэта зразумела. Калі СМІ праз дзень паведамляюць, што хтосьці ў Егіпце атруціўся, то не кожны захоча рызыкаваць за ўласныя грошы.

Але ў той жа час статыстыка паказвае: агульнага ўсплёску выпадкаў атручэння ў Егіпце няма. І трэба адзначыць, што на любым экзатычным турыстычным накірунку такія сітуацыі здараюцца. Некаторыя прыязджаюць на адпачынак хворыя, там чапляюць нейкія вірусы… Гэта ёсць паўсюль. І я не бачыла, каб праблемы з атручэннем у Егіпце былі, напрыклад, з украінцамі, хаця яны лятаюць у Егіпет не менш. Чамусьці атруціліся толькі беларусы.

Не выключаю, што многія вінаваты самі. Скажам, турысты, калі ляцяць у Індыю, не робяць прышчэпкі, хаця гэта рэкамендуецца, не сочаць пільна за санітарнымі нормамі. Там вадой з-пад крана нельга нават мыць садавіну, але ж многія эканомяць і не купляюць тую ж ваду ў магазіне, а затым і атрымліваюцца такія выпадкі.

Таму, як ужо казала, паток турыстаў у Егіпет, можа быць, крыху і зменшыўся, але гэта па-ранейшаму для беларусаў накірунак нумар адзін. Штогод туды наведваецца каля 180 тысяч нашых турыстаў.

**– Што яшчэ цікава зімой нашым турыстам?**

– Экзотыка! Больш далёкія і цёплыя моры на Кубе, Карыбах, Мексіцы… Натуральна, гэта больш дарагі адпачынак з трансатлантычным пералётам, які могуць сабе дазволіць не ўсе.

І заўсёды нашы турысты вельмі любілі наведвацца на Каляды і Новы год у еўрапейскія краіны, якія зусім побач, – Польшчу, краіны Балтыі, Чэхію. І нават у Парыж альбо Рым пры жаданні можна эканомна злятаць, калі паклапаціцца пра падарожжа і квіткі на самалёт загадзя. Нам вельмі падабаюцца навагоднія еўрапейскія сталіцы.

**– Улічваючы, якая ў гэтым годзе "снежная" зіма, ці запатрабаваны замежныя гарналыжныя курорты?**

– У Беларусі ёсць людзі, якія палюбілі гэты від адпачынку і ездзяць на курорты менавіта катацца на лыжах альбо на сноўбордзе. Калі казаць пра замежныя краіны, то самыя простыя і танныя варыянты – гарналыжны курорт Букавель у Закарпацці альбо Гудауры ў Грузіі. У той жа Букавель нават ляцець не трэба, туды ёсць аўтобусныя "ланцужкі", як летам на мора ў Адэскую вобласць.

Хтосьці таксама аддае перавагу курорту Закапане ў Польшчы альбо наогул адпраўляецца ў Аўстрыю, Італію, Андору ці Францыю, хаця там усё значна даражэй. Аднак там гламур і якасны сэрвіс.

Можна, безумоўна, пакатацца і ў беларускіх гарналыжных комплексах, але, як кажуць, эфект не той. У нас няма гор, а таму гэта больш для аматараў.

**– Калі казаць пра ўнутраны турызм…**

– Аграсядзібы з задавальненнем прымаюць турыстаў, рыхтуюць навагоднія праграмы з каляднай анімацыяй і Дзедам Марозам. На гэта попыт ёсць.

**– А ці прыязджаюць зімой замежныя турысты ў Беларусь?**

– Шчыра кажучы, зіма – не сезон для наведвання нашай краіны замежнікамі, хаця нейкі невялікі паток ёсць і зараз. Мінск развіваецца, будуюцца гатэлі, у іх праводзяцца розныя міжнародныя семінары альбо бізнес-трэнінгі.

Традыцыйна едуць адзначаць навагоднія святы ў беларускіх аграсядзібах альбо ў Мінску расіяне, хаця ўжо няма таго ўсплёску, што быў раней. Хачу сказаць, што практычна ўсе месцы ў сталічных гатэлях на Новы год ужо забраніраваны.

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

# З Новым годам!



**Па гарызанталі:** 1."Дзед Мароз // Чырвоны нос, // … дзеткам нёс" – з верша У.Мацвеенкі "Следапыт". 5."Пасівела … і, як бубен, гудзе, // І па снезе сумуе, // Сумуе па снезе" – з верша С.Грахоўскага "Сум па снезе". 9.Вельмі ранні час. 10.Леў … – вялікі рускі пісьменнік, які, паводле ўсходнеазіяцкага календара, нарадзіўся ў год Пацука. У гэты год нарадзіліся таксама В.Шэкспір, Ж.Верн, А.Моцарт, П.Чайкоўскі, Дж.Вашынгтон, Р.Ніксан, Дж.Буш, Г.Бураўкін, А.Вольскі, В.Быкаў, М.Танк; год Сярэбранага (Белага) Пацука пачынаецца з 25 студзеня. 11.Дзядо … – імя Дзеда Мароза ў Балгарыі; у ЗША і Англіі гэта Санта-Клаўс, у Малдове – Мош Крэчун, у Татарстане – Кыш Бабай, у Беларусі – Зюзя Паазерскі. 12.Тое, што і мяцеліца, завея. 13.Спосаб бегу каня. 15."Засняжыў сняжок сцяжынку, // Нельга … перайсці" – з верша П.Броўкі "Снег. Сняжынкі, як пушынкі". 16."Са Снягуркай Дзед Мароз // Школы ўсе аб'ехалі, // Раздарылі цэлы … // Забавак з пацехамі" – з верша В.Зуёнка "З новымі пяцёркамі!". 17.Беражы … у люты мароз (прык.). 20.Не пужай, …, вясна прыйдзе (прык.). 21.Замкнёная крывая лінія. 22.Утварэнне суцэльнага ледзянога покрыва на рацэ, возеры. 27."Пацук – першы … ад мышы да дыназаўра" (В.Кротаў). 28."Хай Мароз, сівы …, // Зазірне ў кожны дом, // Хай татуля і матуля // Накрываюць дзеткам стол" – з карагоднай песні. 29.Снегу навее – хлеба прыбудзе, … разальецца – сена набярэцца (прык.). 30."Мы песняю шчаслівай // Вітаем Новы год! // І зайчыкі, і … , // Ідзіце ў карагод!" – з верша Ул.Карызны "Навагодняя песенька". 31.Вапняковае ўтварэнне на дне пячор.

**Па вертыкалі:** 2.Для мядзведзя зіма – … ноч (прык.). 3. …-стыль – цяга да моды мінулых гадоў. 4. … , Чэпіга, Матавіла – адна з народных назваў сузор'я Арыёна, па якім некалі зімою альбо восенню вызначалі час. 5."Ёлку везлі нам на свята // Белы … і жаўна" – з верша С.Сакалова-Воюша "Ёлка". 6.Музычны інструмент, сімвал паэзіі. 7.Каштоўны камень – талісман 2020 года; такая назва і ў дрэва, якое ў Грэцыі выкарыстоўваецца як каляднае. З кветак талісманам 2020 года з'яўляецца лілія. 8. … дзяўбе ў сцяну – мяцеліца будзе (прыкм.). 14."З Новым годам, браты-крывічане! // З Новым годам, … мая!" – з верша А.Салаўя "З Новым годам!". 15."На новае лета // Радзі, Божа, жыта. // Жыта, … , // Усякая пашніца!" – пажаданне калядоўшчыкаў гаспадару хаты. 18.На Каляды … рады – хлопцы семак прынясуць (прык.). 19.Зімні від спорту. 22."Ой, ладачкі-…, // Надышлі Калядкі" – з верша А.Вольскага "Калядкі". 23.Праверка фінансавай дзейнасці арганізацыі, установы. 24.Вечназялёная расліна-паразіт, галінкамі якой упрыгожваюць на Каляды пакоі ў некаторых заходніх краінах; у краінах Цэнтральнай Амерыкі каляднымі з'яўляюцца галінкі кававага дрэва. 25.Снег прыгожы, ды … мерзнуць (прык.). 26."Даставайце з вышак … , // Гайда сцежкі праціраць" – з верша Я.Коласа "Надыход зімы".

## Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Падарункі. 5.Зямля. 9.Рань. 10.Талстой. 11.Мраз. 12.Завіруха. 13.Алюр. 15.Поле. 16.Воз. 17.Нос. 20.Зіма. 21.Авал. 22.Ледастаў. 27.Крок. 28.Дзядуля. 29.Вада. 30.Ліскі. 31.Сталагміт.

**Па вертыкалі:** 2.Адна. 3.Рэтра. 4.Косар. 5.Зайка. 6.Ліра. 7.Гранат. 8.Дзяцел. 14.Радзіма. 15.Пшаніца. 18.Дзеўкі. 19.Слалам. 22.Ладкі. 23.Аўдыт. 24.Амяла. 25.Ногі. 26.Сані.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

ВІНШУЕМ!



# Ігар Стасевіч – найлепшы футбаліст года

На цырымоніі «Зорны мяч» быў названы пераможца ў намінацыі «Найлепшы футбаліст Беларусі». Ім стаў паўабаронца БАТЭ Ігар Стасевіч. І гэта не ўпершыню. Стасевіч удастоены звання лепшага гульца Беларусі другі раз запар і трэці ў кар'еры.

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
**Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**


Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.12.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 007 экз. Заказ № 4140.

